# СВАБОДА

7 — 13 чэрвеня 1994 г.

№22

Кошт 250 рублёў

ГОД ЗАСНАВАНЬНЯ 1902
ВЫХОДЗІЦЬ З 1990

Галоўны рэдактар
**Ігар ГЕРМЯНЧУК**

Заснавальнік **Павал ЖУК**

Выдавец
**«Газэта СВАБОДА», Ltd.**

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
**220088, Менск,**
**вул.Іванаўская, 56**
**Тэл. 36-24-41**


# Кебіч — гэта вайна

## Сакрэтныя дакуманты, якія атрымала рэдакцыя СВАБОДЫ, сьведчаць, што Кебіч і ягоная кампанія спадзяюцца толькі на аўтаматы Калашнікава і міліцэйскіх сабак

Узгадайце: кожны раз, калі пад Кебічам хістаецца крэсла, ён выводзіць да Дома ўраду ўнутраныя войскі. Ня выключана, што нават пасьля правалу на прэзыдэнцкіх выбарах Кебіч паспрабуе ўтрымаць уладу з дапамогаю зброі.

Сем месяцаў таму, 9 лістапада 1993 г., калі адкрывалася чарговая сэсія Вярхоўнага Савету, Вячаслава Кебіча моцна напалохалі ягоныя паплечнікі. Яны пераканалі яго, што амаль палова дэпутацкага корпусу схіляецца да таго, каб неадкладна адправіць урад у адстаўку, а таму трэба засьцерагчыся.

І Кебіч бразнуў зброяй: да Дома ўраду былі сьцягнуты войскі, у двары стаялі БТРы з поўным боекамплектам, паблізу залы паседжаньняў ВС дэманстратыўна хадзілі аўтаматнікі... Гэтая ўзброеная авантура, як цьвердзяць дасьведчаныя людзі, была разьлічаная на тое, каб застрашыць дэпутацкі корпус, а ў выпадку, калі Вярхоўны Савет усё ж прагаласуе за адстаўку — прымусіць дэпутатаў перагаласаваць.

У свой час СВАБОДА па гарачых сьлядох пісала пра гэтыя падзеі. Аднак тады мы ня ведалі ўсіх падрабязнасьцяў. Цяпер рэдакцыя мае сакрэтныя дакументы, якія мы папярэдне далі прааналізаваць спэцыялістам. Выснова экспэртаў была такая: Кебіч і ягонае атачэньне — авантурысты, знаходжаньне іх каля ўлады можа абярнуцца крывавай трагедыяй.

Ужо тады, 9 лістапада, яны былі гатовыя страляць. Начальнік штабу Ўнутраных войскаў падрыхтаваў праект загаду «о применении огнестрельного оружия» — «на поражение по нижним конечностям». У гэтай акцыі непасрэдна удзельнічала 2413 вайскоўцаў і міліцыянтаў. Зь іх — 1733 афіцэры і салдаты Ўнутраных войскаў, якія да сямі гадзін раніцы 9 лістапада былі разьмешчаны за будынкам Дома ўраду. Ад 5-га асобнага міліцэйскага батальёну спэцыяльнага прызначэньня створана рэзэрвовая група ў колькасьці 200 чалавек і агнявая група — 30 чалавек. Ад 1-й брыгады Ўнутраных войскаў было вылучана 150 чалавек «для конвоирования задержанных лиц».

Акрамя таго, быў прыведзены ў баявую гатоўнасьць 1-ы асобны міліцэйскі батальён (г.Магілёў), якому пастаўлена задача па сыгнале не пазьней чым праз 4 гадзіны прыбыць у Менск. Навучальнаму цэнтру Ўнутраных войскаў і 6-му асобнаму міліцэйскаму батальёну (г.Баранавічы) давалася дзьве гадзіны, каб даехаць да сталіцы. І такая цікавая дэталь: ад 5-га асобнага батальёна была сфармавана група афіцэраў у цывільным адзеньні «для ведения разведки во время скопления народа на площади Независимости». Яшчэ 300 чалавек (палова зь іх — «спэцназаўцы») знаходзілася ў рэзэрве камандуючага Ўнутранымі войскамі генэрала Платонава.

Узброеныя былі наступным:
Бронетранспартэры — 21;
Аўтаматы Калашнікава — 60;
Пісталеты Макарава — 24;
Снайпэрскія вінтоўкі СВД — 13;
Кулямёты Калашнікава — 6;
«Чаромуха-10» — 465;
Службовыя сабакі — 200.

Вось з дапамогаю чаго ратуецца рэжым Кебіча. Парагвай. Прычым нашыя крыніцы сьцьвярджаюць, што гэта быў «сярэдні варыянт». Уявіце, што можа здарыцца, калі Кебіч праваліцца ў першым жа туры прэзыдэнцкіх выбараў, але яшчэ два тыдні будзе захоўваць уладу прэм'ер-міністра...

**Пятро ПАНКРАТОВІЧ**

СПИСОК
личного состава боевой группы
войсковой части 3214 (49 чел.)

Командир боевой группы – подполковник Морозов А.В. „Остров-11"

1. Группа "А" – капитан Зураев В.В. – командир группы (19 чел.) „Лав.-8"

Расчет № 1 (БТР,УАЗ-469) „Л-1"
1.к-н Зураев (ПКТ)
2.ст.л-т Шестак (СВД)
3.ряд.Крикуненко (АК)
4.ряд.Домаш (АК)
5.ряд.Свиридович (АК)
6.ряд.Бойчук (АК)
7.под-к Морозов (АК)

Расчет № 2 (БТР) „Л-2"
1.м-р Лось (ПКТ)
2.ст.л-т Ярович (СВД)
3.ст.л-т Троцкий (АК)
4.ряд.Мацапаев (АК)
5.ряд.Анастасьев (АК)
6.ряд.Яхновец (АК)

Расчет № 3 (БТР) „Л-29"
1.к-н Морковский (ПКТ)
2.ст.л-т Дудкин (СВД)
3.мл.с-т Туманин (АК)
4.ряд.Антоненко (АК)
5.ряд.Дуферов (АК)
6.ряд.Толкач (АК)

2. Группа "Б" – ст.лейтенант Щербаков – командир группы (30 чел.) „Лав.-5"

Расчет № 1 (БТР) „Л-7"
1.ст.л-т Щербаков (АК)
2.пр-к Антоновский (АК)
3.ряд.Кононов (СВД)
4.ряд.Алимов (АК)
5.ряд.Функ (АК)
6.ряд.Денисик (АК)
7.ряд.Коктыш (АК)
8.ряд.Ермолович (АК)

Расчет № 2 (БТР) „Л-28"
1.ст.л-т Чуханов (АК)
2.пр-к Сергун (АК)
3.ряд.Кузнецов (АК)
4.ряд.Шкут (АК)
5.ряд.Денисенко (АК)
6.ряд.Пледков (АК)
7.ряд.Тихленков (АК)

Расчет № 3 (БТР) „Л-24"
1.к-н Корнюшко (АК)
2.пр-к Яскевич (АК)
3.с-т Ярмольчик (АК)
4.ряд.Ларченко Г.(АК)
5.ряд.Ларченко М. (АК)
6.ряд.Кобец (АК)
7.ряд.Михальчик (АК)

Расчет № 4 (УАЗ-469) „Л-14"
1.ст.л-т Палей (АК)
2.к-н Каширов (АК)
3.л-т Шабуневич (СВД)
4.ст.пр-к Русак (АК)

Расчет № 5 (УАЗ-469) „Л-21"
1.ст.л-т Журневич (СВД)
2.ст.л-т Поддубский (АК)
3.ст.л-т Кравченко (АК)
4.ст.пр-к Бурый (АК)

Личный состав:
Всего в боевой группе – 49 человек
из них:
офицеров – 17 чел.
прапорщиков – 5 чел.
срочной службы – 27 чел.

Автомашины и бронетехника:
– БТР-80 – 6 шт.
– УАЗ-469 – 2 шт.

Вооружение:
– ПКТ – 3 шт.
– СВД – 6 шт.
АКС – 40 шт.

– Группа изъятия – п-к Братковский – „Остров"
– Деж. по части – „Остров-1"
– Циркулярный позывной – „Лавина"

Начальник штаба войсковой части 3214
подполковник А.В.Морозов

**Сьпіс адной з баявых групаў, што ўдзельнічалі ў авантуры 9 лістапада 1993 г.**



**Камандуючы Ўнутранымі войскамі генэрал Канстанцін Платонаў. Цяпер Кебіч даў яму яшчэ і пасаду першага намесьніка міністра ўнутраных справаў**

# Тэлесэрыял пра Зянона Пазьняка

**Нетрадыцыйным чынам зьбіраецца выкарыстаць эфірны час, адведзены для кандыдатаў у прэзыдэнты, «каманда» Зянона Пазьняка. Акрамя выступаў кандыдата і ягоных паплечнікаў, тэлегледачы пабачаць шматсэрыйны фільм «Невядомы Пазьняк».**

Рэжысэр фільма — Уладзімер Колас, кампазытар — Ігар Лучанок. Чатырохсэрыйная тэлестужка пра лёс, погляды, захапленьні Пазьняка, пра невядомыя шырокай публіцы бакі ягонага жыцьця будзе паказаная 8, 14 і 20 чэрвеня а 20.00 гадзіне і 21 чэрвеня а 19.00 гадзіне.

М.С.

# Шэсьць „НЕ" Народнага Фронту

**Управа БНФ выпусьціла на расейскай мове ўлётку пад назовам «Чего Зенон не будет делать».**

Ва ўлётцы — шэсьць тэзаў (напрыклад: «Зенон НЕ БУДЕТ никого силой заставлять разговаривать по-белорусски», «Зенон НЕ БУДЕТ разрывать экономические связи с Россией», «Зенон НЕ БУДЕТ воевать с соседями» і інш.) ды кароткае іх абгрунтаваньне ("Расея — гэта найбуйнейшы эканамічны партнэр Беларусі, важны пастаўшчык і велізарны рынак збыту. Пры раўнапраўных дачыненьнях, якіх і дамагаецца Зянон, гандаль з Расеяй выгодны для Беларусі").

Як патлумачыў СВАБОДЗЕ сакратар Управы Народнага Фронту Вінцук Вячорка, задача ўлёткі — разьвеяць беспадстаўныя страхі ачмуранага кебічаўскай прапагандай расейскамоўнага палітычна пасыўнага электарату.

І.С.

# «Чым дапамагчы, Слава?»

## Стэнаграма выступу В.Кебіча на закрытай нарадзе ў Полацку

**У нядзелю, 5 чэрвеня, падчас паездкі ў Полацак В.Кебіч сустрэўся з намэнклятурай Віцебшчыны. Газэце СВАБОДА ўдалося атрымаць дыктафонны запіс гэтай нарады. Друкуем частку выступу В.Кебіча (у перакладзе з расейскай).**

**В.Кебіч:** «Я буду перад вамі чэсным — да выбараў нічога ня будзе. Любое павышэньне цэнаў цяпер — гэта ўдар па нас. Таму да выбараў нічога ня будзе рабіцца. Другое — мы прымусім прамысловасьць апусьціць цэны. Засталося гэтых самых 19 дзён, і трэба нам падціснуцца і пацярпець. Бо, зразумела, нашыя праціўнікі толькі таго і чакаюць, каб мы недзе там цэны адпусьцілі. Таму мы што зрабім? У нас па ўсіх абласьцях масла дарагое, а ў Менску таннае. Гэта выклікае незадаволенасьць народу. Таму мы падымем у Менску цэны на масла, зробім пакуль тысяч 18, але за кошт таго, што скінем накідку на вараную каўбасу — зьнізім цэны на вараныя каўбасы. Такім чынам канцы неяк ўраўнаважым. Сенакос пайшоў, для гэтага як мінімум патрэбна 500 млрд. руб. — на ўборку траваў. Але калі Багданкевіч ня дасьць, а падобна, што ён ня дасьць, тады я вымушаны буду аддаваць замежныя крэдыты. Ну, Багданкевіч яўна заявіў, што ён будзе прэм'ер-міністрам у Шушкевіча. Гэта ўвогуле, вядома, страшна. Калі Нацыянальны банк становіцца палітызаваным, гэта ня дай Бог, прабачце мне. Вядома, яго ў кожным разе гнаць трэба.

І яшчэ: мы аб'явім у панядзелак ці ў аўторак, што той крэдыт, які быў выдадзены вам на пасевы — трыльён пад 6 працэнтаў — мы аб'явім, што мы яго вяртаць ня будзем. Зьелі вы яго і на здароўе. Нам Расея, Чарнамырдзін асабіста мне, пад выбары даў 2 млн. тон нафты па 20 даляраў. І вось гэтую нафту мы хацелі даць толькі сялу. Гэта вы разумееце — мы купляем сёньня па 85 даляраў за тону нафты. А гэта — 20. Таму на ўборку ўраджаю гэтая нафта пойдзе па 20 даляраў за тону і на грамадзкі транспарт.

Ну і па сакрэту скажу, што быў званок мне ўчора першага намесьніка (Чарнамырдзін цяпер на адпачынку); я, відаць, на наступным тыдні яшчэ раз палячу ў Расею. Мне проста сказалі: «Чым дапамагчы, Слава, чым дапамагчы?» У Расеі вельмі вялікая трывога за цяперашнюю абстаноўку, настолькі вялікая трывога, і асабліва ў Расеі трывожацца за Лукашэнку. Я, можа быць, новага вам нічога не скажу, але я яшчэ раз вам хачу сказаць, што гэты чалавек на апошнім зьдзьвігу.

Мы чатыры дні таму назад сустрэліся — Дубко, Новікаў, Кебіч і Лукашэнка. Вырашылі сабрацца і пагаварыць. Дамовіліся — давайце мы чысты аркуш разграфім і будзем фармаваць урад. Ну вось, дапусьцім, ты, Дубко, хто? Першы намесьнік старшыні Савету Міністраў па аграпраме. Новікаў, ты хто? Ну там пры прэзыдэнце, там нейкі галоўны дарадца, ці ва ўрадзе мы табе можам таксама даць міністра культуры, міністра асьветы ўрэшце. А гэта ўсё каардынатары народнага руху. Я кажу: «Калі ласка. Я магу зьняць сваю кандыдатуру». На чыю карысьць? Яны кажуць: «Тады ўсё. Тады, — кажуць, — улада будзе ў нікчэмнасьцяў». На жаль, можа вось як атрымацца, калі мы не аб'яднаем левыя сілы. Я маю на ўвазе — Новікаў, Дубко. Вядома, мы можам расцягнуць па пальцах галасы, і можа здарыцца непапраўнае. Я Новікаву: «Ты пойдзеш у прэзыдэнты?» «Не». Ну ў яго рэйтынг, у Новікава. Ну не ў самога Новікава, а ў кампартыі. На сёньняшні дзень цягне недзе 10—11 працэнтаў. Мы ж здымаем замеры гэтыя кожны дзень. У Дубко — 2,7, прытым пастаянна. Ну што вы хочаце? Ну давайце вось сёньня скажам, ну назавём вас, пасады, я вам абяцаю, што вы будзеце. Мы хочам сябе паказаць. А ў Дубко — Шарэцкі, ведаеце такога дзеяча? Вось ён, Шарэцкі, усю ваду і муціць. А Дубко яго слухае...»

# За вамі сочаць!

**Як стала вядома рэдакцыі СВАБОДЫ, Міністэрства ўнутраных справаў разаслала ва ўсе мясцовыя аддзелы міліцыі спэцзагад на пэрыяд прэзыдэнцкай кампаніі.**

У ім гаворыцца, што дзеля таго, каб забясьпечыць «своечасовае рэагаваньне на парушэньні грамадзкага парадку і законнасьці» ў пэрыяд перадвыбарчай кампаніі, ад 1 да 22 чэрвеня двойчы на суткі «зь месцаў» павінна паступаць рэгулярная інфармацыя. У ёй належыць падаваць прозьвішча кандыдата на прэзыдэнта, мейсца, дату і час сустрэчы з выбаршчыкамі, а таксама колькасьць удзельнікаў, выступоўцаў і вынікі сустрэчы.

Такім чынам, міліцыі няма калі лавіць злачынцаў, бо трэба ратаваць свайго «бацьку» Вячаслава Кебіча.

**Андрэй БАРЫСЕВІЧ**

# СВАБОДА — гэта вам не Adidas

## СВАБОДА зноў ня выйшла своечасова. Чаму? «Белсаюздрук» адмаўляецца распаўсюджваць нашую газэту

Гэты нумар СВАБОДЫ затрымаўся на адзін дзень. Па графіку наша газэта выходзіць па аўторках. Аднак у панядзелак Беларускі Дом друку заявіў, што «па тэхнічных прычынах» (нібыта з-за адсутнасьці друкарскіх пласьцінаў) ніякія газэты, акрамя афіцыйных, друкавацца ня будуць. Рэдакцыя сама знайшла пласьціны — прывезьлі зь Вільні. Але ў наступны раз яны яшчэ што-небудзь могуць прыдумаць, напрыклад, заявіць, што няма фарбы.

Хаця зразумела, што ініцыятыва зыходзіць не з друкарні. Дом друку толькі выконвае распараджэньні свайго саўмінаўскага начальства, якому СВАБОДА стала ўпоперак горла. Ня маючы законных падставаў забараніць нашую газэту, яны шукаюць іншыя шляхі. «Белсаюздрук», напрыклад, адмаўляецца распаўсюджваць СВАБОДУ, матывуючы гэта тым, што яе нібыта не купляюць.

Тымчасам у мінулы аўторак, 31 траўня, у дзень выхаду газэты, кіраўніца Менскага гарадзкога «Белсаюздруку» Ларыса Шаблоўская *(на здымку)* склікала інструктараў раённых аддзяленьняў і загадала ім забраць СВАБОДУ з кіёскаў. У другой палове дня тыя кінуліся па кіёсках, аднак газэту практычна ўсюды ўжо раскупілі. Удалося забраць толькі пару дзясяткаў асобнікаў. І пасьля гэтага таварыш Шаблоўская заяўляе, што СВАБОДУ не купляюць і «Белсаюздрук» будзе браць на ўвесь Менск усяго 3,5 тысячы асобнікаў.

У сваю чаргу рэспубліканскае прадпрыемства «Белсаюздрук», якое распаўсюджвае газэту па абласных і раённых цэнтрах, заяўляе, што возьме на продаж толькі 5 тыс. асобнікаў СВАБОДЫ. Спрабавалі пагаварыць з дырэктарам гэтай дзяржаўнай канторы Ю.Хмыровым, але ў кабінэце яго не аказалася.

Адшукалі таварыша Хмырова ў краме Adidas (былы магазін «Глёбус» каля Галоўпаштамту). Ён насіўся там зь нейкімі жалязякамі (на здымку) і даваў указаньні рабочым што і як рабіць. Як мы высьветлілі пазьней, тав. Хмыроў перадаў палову крамы «Глёбус» не абы каму, а сыну міністра зьнешнеэканамічных сувязяў — 30-гадоваму Віктару Радкевічу, дылеру Adidas. Вось так! Цяпер Хмыроў бегае як памагаты ў Радкевіча.

**Мікола ГРЫНЯВІЦКІ**

*P.S. Калі Вы ня зможаце набыць СВАБОДУ ў кіёсках "Саюздруку", выказвайце свае прэтэнзіі Л.Шаблоўскай (тэл. 26-16-37) і Ю.Хмырову (тэл. 27-18-51). А таксама не забудзьцеся падпісацца на газэту СВАБОДА, бо можа здарыцца так, што "Саюздрук" зусім адмовіцца нас распаўсюджваць.*

# Самыя вялікія сёлы — за Пазьняка

**Як вядома з геаграфіі, найбольшыя ў нашай краіне вёскі — на Століншчыне. Сюды, у палескія шматтысячныя сёлы, прыяжджала ў мінулыя пятніцу—суботу група кіраўнікоў Народнага Фронту на чале зь Зянонам Пазьняком.**

У складзе групы былі таксама сябры Сойму БНФ: дэпутаты Вярхоўнага Савету Валянцін Голубеў і Юры Беленькі, член-карэспандэнт Акадэміі навук, намесьнік старшыні Сялянскай партыі Іван Нікітчанка, дэпутат Менскага гарсавету Галіна Вашчанка і рэгіянальны каардынатар Фронту Вячаслаў Сіўчык. Госьці зь Менску наведалі сёлы Альманы, Струга, Глінка, Белагуша, Бяражное, Рубель, Велямічы і Альшаны, а таксама рабочы пасёлак Рэчыцу ля Століна і Давыд-Гарадок.

Як паведаміў Вячаслаў Сіўчык, у сустрэчах, што адбываліся ў сельскіх ДК, разам узялі ўдзел каля 2800 чалавек. У кожным сяле ўтварыліся суполкі Народнага Фронту. В.Сіўчык падзяліўся з карэспандэнтам СВАБОДЫ сваімі ўражаньнямі: «Кебічаўская прапаганда супраць Пазьняка і Фронту разьвейваецца як дым пры жывой сустрэчы зь людзьмі. Усе тамтэйшыя людзі, хто пабачыў і пачуў Пазьняка на яве, будуць галасаваць за яго. Наагул, мы павінны перагледзець сваё стаўленьне да вёскі як да «ня нашага» ці да «сьпячага» электарату».

**І.С.**

# Прафсаюзны бос лічыць манголаў разумнейшымі за нас

**2 чэрвеня кіраўнік «афіцыйных» прафсаюзаў Уладзімер Ганчарык ладзіў прэс-канфэрэнцыю.**

Выказваючы сваё стаўленьне да плянаў Кебіча аб'яднаць фінансавыя сыстэмы Беларусі й Расеі, прафсаюзны бос заявіў: «Зважаючы на сытуацыю ў Расеі, мне здаецца, гэта ня вельмі ўдалае рашэньне». На ягоную думку, Беларусь можа і павінна разьвівацца як самастойная дзяржава, падтрымліваючы у той жа час узаемавыгаднае супрацоўніцтва з Расеяй. Ён таксама прывёў прыклады Манголіі й Баўгарыі, урадам якіх у свой час «хапіла розуму не ўступаць у СССР».

**Ірына ЛЕЎШЫНА, БелаПАН**

# За вялікую любоў да прэм'ера давядзецца заплаціць

**Пракурор Клічаўскага раёну накіраваў у мясцовы пасялковы Савет просьбу даць згоду на прыцягненьне да адміністрацыйнай адказнасьці дэпутата гэтага Савету, дырэктара жыльлёва-камунальнай гаспадаркі Валянціна Язьвінскага.**

Сп.Язьвінскага абвінавачваюць у парушэньні Закону аб выбарах прэзыдэнта. Падчас першага этапу прэзыдэнцкай гонкі дырэктар даў сакратарцы загад аформіць падпісныя лісты і паставіць подпісы у падтрымку прэм'ер-міністра за ўсіх 27 рабочых прадпрыемства.

У выпадку, калі справа дойдзе да суда, сп.Язьвінскаму пагражае штраф у памеры 10 мінімальных заробкаў альбо папраўчыя работы тэрмінам да двух месяцаў. Гэта пакуль што першая ў Беларусі спроба пракуратуры пакараць парушальнікаў заканадаўства аб выбарах прэзыдэнта.

***СІМ***

# «Цнатлівыя прывіды Пане Каханку»

**7 чэрвеня ў выставачнай залі музэя Максіма Багдановіча, што на Траецкім прадмесьці ў Менску, адчынілася фотавыстава «Цнатлівыя прывіды Пане Каханку» фотамастачкі Алены Адамчык.**

Творы экспануюцца ўпершыню, выклікаюць шэраг гістарычных асацыяцыяў, вымушаюць паспрачацца пра боскасьць і эратызм.

Ідэю выставы падтрымала беларуская фірма «Дайнова».

**А.ЁРКІНА**

# Міліцыянты будуюць асабняк свайму шэфу

**Гэтая віла належыць начальніку Цэнтральнага РАУС г.Менска Віктару Русаку — дэпутату Вярхоўнага Савету. Разам зь іншымі намэнклятурнымі дзеячамі ён атрымаў 0.20 га зямлі пад будаўніцтва дома на беразе Менскага мора ў вёсцы Лапаравічы, у прыродаахоўнай зоне, дзе заканадаўствам забаронена ўсялякае будаўніцтва.**

У артыкуле «Чые ж асабнякі?», які быў апублікаваны ў мінулым нумары СВАБОДЫ, мы пісалі, што зямлю ў Лапаравічах сталічная «верхавіна» пачала хапаць адразу ж, як толькі праваліласяГКЧП.

Дэпутат Русак атрымаў надзел 24 жніўня 1991 г. Цяпер ужо адбухаў шыкоўную вілу. Міліцыянты з Цэнтральнага РАУС працуюць тут як парабкі (дабрабыт шэфа — наш дабрабыт!). На першым здымку вы бачыце вусатага старшыну Анатоля Хадароўскага. На другім — міліцэйскі вадзіцель Уладзімер Булавацкі (чалавека з цыгарэтаю апазнаць нам пакуль не ўдалося). Гэтыя здымкі былі зробленыя ў пятніцу 3 чэрвеня а 10.30.

Нам невядома, ці ў службовы, ці ў вольны час будуюць «ахоўнікі парадку» асабняк свайму шэфу. Будзем спадзявацца, што гэта высьветліць міністар унутраных справаў генэрал Данько. Павінен жа ён хоць нешта ведаць — хоць кроплю таго, што творыцца ў райаддзеле міліцыі, які разьмешчаны побач зь ягонымі міністэрскімі апартамэнтамі. Між іншым, ёсьць зьвесткі, што міністар Данько зьбіраецца прызначыць В.Русака начальнікам міліцыі ўсёй Менскай вобласьці. Дарэчы, год таму былі спробы паставіць яго начальнікам міліцыі г.Менска, аднак Русаку перашкодзіў тады скандал, зьвязаны з кватэрнаю махінацыяй. Тую справу, праўда, спусьцілі на тармазох, і міліцэйскі падпалкоўнік Русак зноў нібыта на кані.

**Іван СІДАР**

# Прэсу не дапусьцілі ў зону

**Мінулае пятніцы, 3 чэрвеня, безвынікова скончыліся намаганьні пісьменьніцы С.Алексіевіч і карэспандэнта расейскага тэлебачаньня Л.Сьвірыдава наведаць на Магілёўшчыне пасёлак Майскі, пабудаваны для перасяленцаў-чарнобыльцаў у Чэрыкаўскім раёне.**

Перамовы з прадстаўніком мясцовай чарнобыльскай адміністрацыі Сьмірновым і Веташкіным, зварот да намесьніка аблвыканкаму сп.Сёмкіна занялі некалькі гадзінаў, але не прынесьлі посьпеху. Ніякіх законных падставаў для забароны прафэсійнай дзейнасьці пісьменьніцы і журналістаў не прад'явілі; галоўным аргумантам на ўсіх узроўнях было: «Няма вам там чаго рабіць».

Афіцыйна пасёлак Майскае лічыцца звычайным паселішчам, дзе ў дыхтоўных катэджах жыве каля трох соцень сем'яў перасяленцаў. Але ж ягоныя жыхары зараз апынуліся ў атачэньні пастоў спэцахова, бо іхнае паселішча адбудавана якраз пасярод радыяцыйнай плямы. Блакітныя катэджы Майскага толькі здаля выглядаюць як мроя: вакол — чарнобыльская пустэча і шляхі з ахоўнікамі і бронетранспартэрамі.

Жыхары ж Майскага знутры зоны назіраюць, як бесьперашкодна рабуецца пакінутая імі ва «ўласнасьць Саветаў» маёмасьць, як вывозяцца дзясяткі пабудоваў, будаўнічых матэр'ялаў, хатняе начыньне. Цярплівая пракуратура толькі канстатуе факты і папярэджвае адказных за чарнобыльскую зону ды ейную «прыхватызацыю» на Магілёўшчыне, а яны ў сваю чаргу палічылі рызыкоўным дапусьціць туды пільных прадстаўнікоў сродкаў масавай інфармацыі.

**Натальля РОСЛАВА,**
**дэпутат Магілёўскага абласнога Савету**

# Турэцкія кватэры па 50 мільёнаў

**Паводле афіцыйных зьвестак, кватэры, пабудаваныя ў Слоніме турэцкай фірмай «Энка», можна будзе выкупіць у прыватную ўласнасьць.**

Каштаваць яны будуць нібыта 50 млн. рублёў. Можна будзе выкарыстаць прыватызацыйныя чэкі. У вобласьці іх, аднак, атрымалі пакуль усяго 737 чалавек. Зь 980 тысяч толькі 227 тысяч зьвярнуліся з просьбай налічыць ім чэкавую квоту. З прыватызацыяй на Гарадзеншчыне ўвогуле прыпазьніліся. Па разьдзяржаўленьні г.зв. рэспубліканскай маёмасьці вобласьць на перадапошнім месцы ў Беларусі. А што да камунальнай маёмасьці, дык пасьля двух гарадзенскіх і аднаго лідзкага аўкцыёнаў Гарадзеншчына адразу заняла 2-е месца сьледам за Менскам, хоць прыватызавана толькі 2% ад усіх аб'ектаў.

Зрэшты, гэтай справай асабліва няма каму займацца. З 23 гарадоў вобласьці прыватызацыйныя службы існуюць толькі ў адзінаццаці. Ды і ў іх дзьве трэці супрацоўнікаў звольнілася. У іншых гарадох папросту няма каму выдаць ліцэнзію на прыватызацыю.

**С.А.**

# Палякі таксама камплексуюць

**Узаемныя беларуска-польскія крыўды апошнім часам абмяркоўваюць усё часьцей.**

4 чэрвеня ў Горадні ў Новым замку адбылася супольная канфэрэнцыя «Шлях да ўзаемнасьці». Ладзілі яе Саюз палякаў Беларусі і абласны Фонд культуры, чынна ўдзельнічалі прадстаўнікі Беларускага грамадзка-культурнага таварыства (БГКТ) з Польшчы. Першай сказала слова польскі пасол сп-ня Эльжбета Смулэк, якая заклікала спрачацца пра факты, а не пра міты, якіх не бракуе і ў іх, і ў нас.

Зь некаторых пазьнейшых выступаў пачало складвацца ўражаньне, што палякаў крыўдзяць у беларускай прэсе і робяць перашкоды польскаму адраджэньню, прыкладам, школьніцтву. Аднак калі выступіў старшыня БГКТ спадар Ян Сычэўскі, дык выявілася, што шмат па якіх пазыцыях справы польскіх беларусаў куды горшыя, чым у беларускіх палякаў. На сядзібу БГКТ у Беластоку некалькі разоў нападалі, на сьценах пісалі лёзунгі накшталт: «Беларусы, вам тут ня мейсца» альбо «Польшча толькі для палякаў». Падобнага дзікунства ў нас у Беларусі не было. Вельмі часта абражаюць беларусаў у прэсе. Прычым, як ні дзіўна, часам вельмі стараюцца каталіцкія сьвятары, якія пішуць, што беларусаў на Беласточчыне завёз расейскі цар замест выселеных у Сібір палякаў. Сьцьвярджаюць таксама, што быццам бы ў некаторых гарадох Беластоцкага ваяводзтва палякі адчуваюць сябе меншасьцяй.

Паводле сп.Сычэўскага, існуе рэальная пагроза заняпаду беларускай культуры на Беласточчыне. Сёлета польскае міністэрства культуры зьменшыла фінансаваньне імпрэзаў БГКТ ажно ў 5 разоў, хоць у цэлым нацыянальныя меншасьці грошай атрымалі ня менш, чым летась. У Бельску-Падляскім, дзе палова польскага насельніцтва, а палова беларускага, улады не даюць будынку для беларускай школы. Болей таго, сэсія гарадзкой управы вострa разглядала пытаньне пра нібыта беларусізацыю культурнага жыцьця ў горадзе, бо ў Доме культуры прайшло некалькі беларускіх акцыяў. Беларускую мову вывучаюць сёньня толькі ў 42 пачатковых школах крыху больш за 3 тысячы вучняў. Раней такіх школаў было 170, а вучняў каля 11 тысяч. Карацей кажучы, калі ў Беларусі польская справа набывае паўны посьпех, падтрымку дзяржавы, дык у Польшчы, у тым ліку беларускім школьніцтве, наадварот, адбываецца рэгрэс.

Кропкі над «і» пазначыў праф. Адам Мальдзіс. Ён сказаў, што комплекс нацыянальнай непаўнавартасьці часам выяўляецца ў агрэсыўнасьці, і маюць яго ня толькі беларусы, але і палякі. У іх ён існуе ў форме комплексу пакутніцтва — маўляў, палякаў заўсёды прыгняталі. Адсюль настроенасьць на барацьбу, на стварэньне вобразу ворага. У газэтах можна прачытаць, што беларусы пасьля вайны зачынялі касьцёлы й польскія школы. Аднак беларусаў душылі ня менш, а нават больш, бо ня трэба было аглядацца на Варшаву. Нашыя палякі маюць лепшыя шанцы для адраджэньня, бо за імі стаіць моцная культура суседняй дзяржавы, а мы — сьведамыя беларусы — такая ж меншасьць сярод здэнацыяналізаванай беларускай этнічнай большасьці. Праф. Мальдзіс прапанаваў замест тэрміну «нацыянальная меншасьць» ужываць — «нацыянальная супольнасьць». Увогуле размова ў Новым замку атрымалася прыязная й карысная, яна паспрыяла збліжэньню пунктаў гледжаньня палякаў і беларусаў.

На наступны дзень у Гарадзенскім драматычным тэатры адбылося сьвята польскай і беларускай песьні, дзе выступілі 11 беларускіх ансамбляў зь Беласточчыны і 4 польскія ансамблі з Гарадзеншчыны. Да слова, папярэднімі выходнымі ў Горадні трэці раз прайшоў фэстываль польскай песьні, які фундавала беларускае міністэрства культуры й друку. А на цяперашняе сьвята песьні й канфэрэнцыю выдаткавалі 13 мільёнаў рублёў Гарадзенскі аблвыканкам.

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ**

Сёньня

Сяргей ДУБАВЕЦ

## Канфлікт палітыкі з геаграфіяй

Што найбольш зьдзіўляе апошнім часам, дык гэта тое, як па-рознаму складаюцца лёсы былых савецкіх рэспублік. Гэта ж нядаўна яшчэ можна было вольна прыехаць у Эстонію ці Туркменію ды знайсьці там у горадзе — гаркам, у вёсцы — калгас, у калгасе — парторга. Знайсьці й не прапасьці. Бо эстонскі й туркменскі парторгі — людзі адной савецкай фармацыі, і ты ведаеш, што ім сказаць і як.

Ва ўсіх рэспубліках — аднолькавая структура ўлады, тэрыторыі ды ўсяго грамадзкага жыцьця. І перастройка пачыналася паўсюль аднолькава — зьявіліся нефармалы, дэмакраты, народныя рухі, сувэрэнітэты... Але прайшло тры гады, і інэрцыя савецкага «единообразия» пачала даваць збоі, палітыку стала пакрысе перамагаць геаграфія. Сёньня ўжо Эстонія — больш Фінляндыя, чым Туркменія, а Туркменія — больш Аўганістан, чым Эстонія. Гэта значыць, у нашым разуменьні — два зусім розныя, процілеглыя сьветы. Тое, што ў гэтых горача — у тых сьцюдзёна, і наадварот.

Кожны намацвае свой шэраг, сваю кампанію. Рэальны сэнс у палітыцы набываюць геаграфічныя адлегласьці.

Праўда, часам яшчэ палітыка спрачаецца з геаграфіяй. Красамоўны прыклад — наш. Беларусь паводле палітыкі — хутчэй сярэднеазіяцкая рэспубліка. Здаецца, толькі мусульманскага фактару і не стае. Хадзілі б таварышы Кебіч і Грыб у цюбяцейках. Але нутраная сутнасьць, калі яе ў вонкавую форму перавесьці, часам выглядае надта ж абсурдна. Таму ня ходзяць.

Палітыкі найчасьцей разглядаюць Беларусь на гарызанталі паміж Польшчай і Расеяй. Але наш шэраг, па ўсім відаць, ня гэты. Польшча праводзіць найбольш радыкальная сярод сваіх чэха-славакіяў рэформы. Расея — вялізная фэдэрацыя, трызьніць змаганьнем за карону першае дзяржавы сьвету. Яе суперніцы — ЗША, Нямеччына, Кітай... Мы ж ані радыкалізмам, ані прэтэнзіяй на першыя ролі не вызначаемся. Хутчэй наадварот. І таму наша — іншае поле. Якое? Давайце параўноўваць падзеі.

З аднаго боку, наш «зайчык» даганяе ўкраінскага «карбованца». Аўтаматычна і ўся сытуацыя ў эканоміцы нагадвае ўкраінскую. З другога боку, Багданкевіч раз-пораз становіцца ў апазыцыю да Кебіча. А гэта — добра абкатаны літоўскі варыянт. Там, праўда, ужо зьмянілася шэсьць кебічаў і тры багданкевічы, але апазыцыя паміж першымі й другімі не зьмянялася і ўвесь час была істотным чыньнікам рэформаў. Бо ж грошы! З гэтага ўсё й пачынаецца. Прыклады можна разьвіваць далей. Грошы — інтарэсы — палітыка. Урэшце, вымалёўваюцца зусім аб'ектыўныя прыродныя дадзенасьці. І посьпех будзе мець той палітык, які стане зыходзіць зь іх, а не зь інэрцыі колішняга савецкага «единообразия»...

Вось дзе мы вісім. Па вэртыкалі — паміж Літвой і Украінай. Тузаемся ў бок верхняй, а ніжняя не пускае. Яно само так атрымліваецца, што б ні казаў Кебіч, і нават без Балтыйска-Чарнаморскай Садружнасьці. Гэтаксама, як рэкі нашыя цякуць — уверх і ўніз.

Прырода!

# Пазьняк не падаў руку Кебічу

А Лукашэнка задаволіўся двума пальцамі Вячаслава Францавіча

**31 траўня на паседжаньне Цэнтральнай выбарчай камісіі для рэгістрацыі ў якасьці кандыдатаў у Прэзыдэнты прыйшлі ўсе прэтэндэнты.**

Старшыня Савета Міністраў Вячаслаў Кебіч спрабаваў па-сяброўску павітацца з кіраўніком Беларускага Народнага Фронту Зянонам Пазьняком, двойчы працягнуўшы яму руку. Аднак сп.Пазьняк дэманстратыўна праігнараваў т.Кебіча. На пакрыўджанае пытаньне Вячаслава Францавіча Зянон Станіслававіч адказаў: «Мы з вашымі рукамі яшчэ разьбярэмся».

**М.Г.**

**На здымку: кандыдаты ў Прэзыдэнты А.Лукашэнка, В.Новікаў і В.Кебіч**

# Лукашэнка-superstar

**На мінулым тыдні прыхільнікі Лукашэнкі арганізавалі ў Горадні мітынг.**

Мітынг пачаўся з гімну «Мы беларусы», але бязь сьпеваў, паколькі ніхто ня ведаў словы. Спачатку выступала публіка. Прафэсар Барыхін з унівэрсытэту параўнаў Кебіча зь нелюбімым ім Кубэ, абазваў улады «нечистью» і паведаміў, што намі кіруюць сёньня гаўляйтары, пастаўленыя Міжнародным валютным фондам. Потым адна пэнсіянэрка доўга наракала, што гарэлка ўвесь час даражэе, і назвала Лукашэнку «сьмелым, крэпкім, са здаровай псыхікай», а таксама «восходящей звездой».

Задаволіўшыся панэгірыкамі, Лукашэнка адной фразай «мафия будет как спрут удавлена» выклікаў доўгія й працяглыя воплескі. Сказаў яшчэ, што чыноўнікам, «образно говоря, поотрубаем руки», калі будуць браць хабар. Пасьля Лукашэнка абурана распавёў дэтэктыўную гісторыю, як ён «спрятался от слежки и окольными путями» цераз засады прарываўся ў Горадню, а таму спазьніўся на мітынг. Шараговых супрацоўнікаў КДБ некалькі разоў назваў «честнейшими ребятами» і «порядочнейшими людьми». Паскардзіўся, што ворагі хацелі «вырезать мою команду на стадии сбора подписей». Пад заслону Лукашэнка назваў сёньняшняе беларускае кіраўніцтва «хламом и шестидесятилетним старьем», зноў выклікаўшы бурныя воплескі.

Правая рука Лукашэнкі ў Горадні адстаўны палкоўнік Посахаў паведаміў сьледам сэнсацыю, што ў Італіі народ узяў уладу ў свае рукі, 120 дэпутатаў асуджаныя, а «самыя мацёрыя бізнэсмэны сядзяць у турме і канчаюць жыцьцё самагубствам». Палкоўнік заклікаў народ гуртавацца ў новую ўсенародную арганізацыю пад кіраўніцтвам Лукашэнкі — «союз борьбы с коррупцией и преступностью «Очищение», запіс у які адбываўся падчас мітынгу. Штаб-кватэра будзе ў Менску, а «первички» у кожным раёне. Палкоўнік сказаў абавязкова ўсім «записаться и работать каждому с мафией». Потым зайграў гімн, але кружэлка гэтым разам увесь час заядала.

### Не пашанцавала

Дэпутат Кузьма са Сьвіслацкага раёну паехаў арганізоўваць сустрэчу з Лукашэнкам у Сьвіслач, але апынуўся чамусьці ў мястэчку Поразава, дзе, мабыць, таксама хацеў навербаваць прыхільнікаў для «барацьбіта з мафіяй». Аднак неўзабаве яму давялося прасіць паратунку ў міліцыі.

Як сказана ў міліцэйскім пратаколе, «директор Свислочского откормочного пункта народный депутат Верховного Совета Кузьма» паскардзіўся, што каля будынку Поразаўскага ГДК «его во время возникшей ссоры ударил рукой по лицу председатель Порозовского потребобщества Савчук». Дасьледаваньнем занялася Сьвіслацкая пракуратура.

**В.В.**

# Дакуманты, Мечыслаў Іванавіч, не гараць

**Старшыня Вярхоўнага Савету меў дачыненьне да псыхіятрычнага тэрору.**

Падчас работы начальнікам упраўленьня МУС БССР цяперашні кіраўнік беларускага парляманту падпісаў дакумант наступнага зьместу: «У сувязі з узьніклай неабходнасьцю прашу паведаміць, ці стаіць на ўліку ў псыханэўралягічным дыспансэры грамадзянка Белісава Вера Захараўна, 1947-га году нараджэньня, якая жыве: пр.Ракасоўскага, д.124, кв. 32. Калі так, то зь якім дыягназам. Начальнік упраўленьня М.І.Грыб». Дата — 15 ліпеня 1983 г.

Вера Белісава працавала тады ў сыстэме гандлю і ня стала маўчаць, калі даведалася аб прыпісках і крадзяжах на гуртовай (аптовай) базе Беларускай ваеннай акругі, дзе пасьвілася ці не палова сталічнай намэнклятуры. Калі ўсе сродкі былі выкарыстаныя, начальства вырашыла зрабіць зь яе псыхічна хворую. Як бачым, Мечыслаў Іванавіч таксама прыклаў да гэтага руку. Для даведкі: падобная папера тады значыла аўтаматычную пастаноўку чалавека на псыхіятрычны ўлік. Што і адбылося.

Вера Белісава даведалася, што яна «хворая» на шызафрэнію, чыста выпадкова. Некалькі гадоў упартай барацьбы за справядлівасьць прывялі толькі да зьняцьця ў 1990 годзе з уліку. Такога ж таямнічага, як і пастаноўка. У тэлефоннай размове Вера Белісава запэўніла, што ня траціць надзеі пакараць вінаватых. У тым ліку і Мечыслава Грыба. Праўда, шанцы ў дачыненьні да апошняга цяпер упалі вельмі нізка.

Рэдакцыя мае ў сваім распараджэньні арыгінал гістарычнага дакумента з аўтографам Старшыні Вярхоўнага Савету.

**А.Ш.**

# Ружы замест пісталета

**Старшыня Вярхоўнага Савету генэрал Грыб прыехаў у Горадню на доўгім чорным лімузыне савецкай маркі «ЗІЛ».**

Перад уваходам на завод «Радыёпрыбор» яму ўручылі букет ружаў. У цэху ў шкляной будцы сядзеў стралок вохру пры парадзе: у белаьнежнай кашулі пад чорным гальштукам. Госьцю паказалі невялікую выставу тавараў «Радыёпрыбору». Апроч дзьвюх гарадзенскіх мадэляў міні-тэлевізараў, быў таксама радыёпрымальнік «Акіян», прас, электрасамавар і звычайная кандалябра жоўтага мэталю пад сьвечкі. Абодва тэлевізары былі настроеныя на Астанкіна. Напярэдадні візыту сталічнага госьця гэтыя два тэлевізары тэхнічны кантроль перабраў літаральна па дэтальцы.

Затым генэралу паказалі газавы пісталет. Журналісты чакалі, што прыгожую мэталёвую цацку падораць госьцю. Аднак канструктар, папрасіўшы папярэдняга дазволу на вытворчасьць пісталета на «Радыёпрыборы», паклаў яго ў кабуру, а потым схаваў у свой дыплямат. Спадара Грыба правялі ўздоўж канвэераў. Жанчыны, якія нешта літавалі паяльнікамі, усе мелі такія прычоскі, нібыта цэх толькі што пакінуў цырульнік.

**С.А.**

# Прашу пасадзіць мяне на тры гады з канфіскацыяй

## У Беларусі рэанімаванае паняцьце «спэкуляцыя»

**Зь 1 траўня ў Беларусі пачаў дзейнічаць крымінальны кодэкс з унесенымі на зімовай сэсіі ВС зьменамі й дапаўненьнямі. Сам кодэкс быў прыняты ажно ў 1978 г. і ўтрымліваў шмат цікавых артыкулаў (напрыклад, незаконнае навучаньне каратэ), па якіх фактычна да нядаўняга часу чалавека можна было пасадзіць. Многія адыёзныя артыкулы былі адменены наагул ці зьменены. Але некаторыя набылі «другое дыханьне». Як, напрыклад, арт. 150 (6) «Спэкуляцыя».**

Дазволю сабе працытаваць яго цалкам: *«Скупка на прадпрыемствах (у арганізацыях) дзяржаўнага гандлю і спажывецкай каапэрацыі Рэспублікі Беларусі тавараў, прызначаных для раздробнага* [розьнічнага] *продажу насельніцтву, і перапродаж такіх тавараў з мэтай нажывы (спэкуляцыя) — караюцца пазбаўленьнем волі на тэрмін да трох гадоў з канфіскацыяй маёмасьці ці без канфіскацыі, або папраўчымі работамі на тэрмін да двух гадоў, або штрафам. Спэкуляцыя, учыненая ў буйных памерах або з папярэдняю змоваю групы асобаў, а таксама работнікам гандлю, — караецца пазбаўленьнем волі на тэрмін да шасьці гадоў з канфіскацыяй маёмасьці або штрафам».*

Такім чынам, справа сур'ёзная. Калі падыходзіць да гэтага артыкула строга, то перасаджаць трэба большую частку насельніцтва Беларусі. На волі застанецца прыкладна 10—15% грамадзянаў.

Асабліва пацярпелі б бізнэсмэны «новай хвалі», якія робяць грошы выключна на «скупцы і перапродажы». Скажам, фірма купляе на Ўкраіне трубы па 200 даляраў за адзінку і перапрадае іх дома ўдвая даражэй. Гэта спэкуляцыя (паводле КК) у чыстым выглядзе. Іншая справа, што фірму ніхто кранаць ня будзе, бо ў самым горшым выпадку яна адкупіцца. Гэтаксама ж і міліцыянты зараз пайшлі такія, што не палезуць на дурніцу «шманаць» паважаных бізнэсмэнаў. Зусім можа быць, што зьверху маецца моцная падтрымка.

Так ці йначай, ледзь ня кожны грамадзянін краіны займаецца спэкуляцыяй. Жанчына, якая прадае малако ад сваёй каровы крыху даражэй, — спэкулянтка. Бабуля-пэнсіянэрка, якая ратуе гаротнікаў ад сындрому пахмельля з мэтай дацягнуць да пэнсіі — таксама займаецца спэкуляцыяй. «Чаўнок», які прадаў у Маскве тавар за расейскія грошы і мяняе іх на «зайцоў», — гэта ўжо валютная спэкуляцыя. Хлопчыкі, што мыюць машыны заможных джэнтэльмэнаў і просяць за гэта грошы, — і яны спэкулянты. Адным словам, мы ўсе ў гэтым замазаныя, нас усіх трэба саджаць.

Асабіста сабе прашу тры гады з канфіскацыяй, бо мяняў расейскія рублі, а бывала — і даляры. Таксама ж аднойчы спрабаваў прадаць абутак па даражэйшай цане, ды не прадаў. Але спроба злавеснага злачынства была. Да таго ж была папярэдняя змова (з жонкай). Значыць, саджаць мяне ўжо можна.

Першымі ж на лаву падсудных трэба саджаць дырэктараў дзяржаўных прадпрыемстваў. Знаёмы фэрмэр нядаўна прадаў хворую карову нарыхтоўнікам па цане 2.300 рублёў за кілязграм. У краме ялавічына каштуе ўжо даўно за 10 тысячаў. Пасадзіць трэба: дырэктара нарыхтоўчай канторы, дырэктара мясакамбінату і дырэктара крамы, бо пасьля кожнага этапу праходжаньня мяса цана на яго імкліва расьце.

Да нядаўняга часу адпушчальная цана на абутак «Белвэсту» вагалася ў межах 115—120 тыс. рублёў за пару. Спажыўцы куплялі за 200—250 тысячаў. Адпаведна: турма плача па дырэктару «Белвэсту», па дырэктарах усіх крамаў, дзе прадаваўся абутак, а таксама па пасярэдніках. Тут ужо «сьвеціць» 6 год з канфіскацыяй, бо мае мейсца спэкуляцыя ў буйных памерах.

Калі дырэктараў, вядома ж, саджаць ніхто ня будзе, то тады каго? Верагодна, гэта не такая складаная праблема. Узорна (на 5—6 пэнсіяў) аштрафуюць бабульку, што гандлюе гарэлкай. Ці складуць пратакол на дзівака, што з адчаю выграб з шафы розную драбязу і вынес на рынак. Карацей кажучы, кандыдаты знойдуцца заўсёды, быў бы артыкул.

А ўвогуле, ад бязглузьдзіцы ўжо проста сумна. Агульнапрынята: трэба мець нармальную эканоміку, нармальную валюту і нармальныя законы, якія б нармальна рэгулявалі першае і другое з дапамогай нармальнага ўраду. Паколькі нічога гэтага няма, трэба прымаць сьмешныя законы. Нам застаецца толькі сьмешна іх выконваць.

**Андрэй ШАВАНДА**

# Дзяржаўна-камэрцыйныя банкі: мэханізмы ўзбагачэньня. Чыйго?

*«Арт.5. Банкам забараняецца: ...уступаць у любога роду зьдзелкі, якія могуць прывесьці да незаконных даходаў; ...ажыцьцяўляць на больш ільготных умовах крэдытаваньне пайшчыкаў, акцыянэраў ці іншых уладальнікаў банку...»*

(Закон «Аб банках і банкаўскай дзейнасьці ў Рэспубліцы Беларусі»)

Як добра ведае паважаны чытач, законы ў нас прымаюцца дзеля таго, каб іх не выконваць. І тыя, хто іх прымае, і тыя, хто павінен іх выконваць, разумеюць: правільны закон патрэбны, але жыць таксама трэба. Паспрабуем разабрацца ў другой частцы гэтай аксыёмы (ніхто ня стане спрачацца, што гэта аксыёма? І правільна).

Заснавальнікамі «Белбізнэсбанку» зьяўляюцца пераважна дзяржаўныя прадпрыемствы. Скажам, такія кіты, як канцэрн «Белхарчпрам», Менскі камвольны камбінат, НВА «Гранат», «Менскжылбуд», НВК «Камінвэст» і г.д. Вядома, што ў лік заснавальнікаў уваходзяць таксама прадпрыемствы малога бізнэсу, сфэры прадпрымальніцтва й гандлю. Ясна, аднак, што не яны тут граюць першую скрыпку. Раней даволі ўпарта хадзілі чуткі, што «Белбізнэсбанк» заснаваны на партыйныя грошы. Можа й так, хоць пацьверджаньняў няма. Правільна было б сказаць: на партыйна-дзяржаўныя грошы. У прынцыпе, гэта цяпер ня так і важна. Банк ёсьць, і разганяць яго ніхто ня будзе: занадта многа зацікаўленых у ягоным існаваньні.

Як указвалі тт. Маркс і Энгельс, усякае вялікае багацьце грунтуецца на вялікім злачынстве. «Белбізнэсбанк» пачаў таксама з парушэньня закону. Банк і чатыры ягоныя аддзяленьні (Фрунзэнскае, Маскоўскае, Ленінскае, «Супрацоўніцтва»), напрыклад, сфармавалі свае статутовыя капіталы ў суме 1300.5 млн. рублёў за кошт банкаўскага крэдыту (51,7% да агульнай сумы фонду). Скажам, у Маскоўскім аддзяленьні — 82,3 млн. уласных сродкаў акцыянэраў, а 512,4 млн. — крэдыты банку. Гэта — непасрэднае парушэньне арт.14 закону «Аб акцыянэрных таварыствах...»

Цікава паглядзець, як адбывалася фармаваньне капіталаў. А менавіта: 10.02.93 г. Маскоўская філія «Белбізнэсбанку» выдае крэдыт фірмам «Кранвэст» — 150 і «Фінансавы сэрвіс» — 130 млн. рублёў. Як быццам для набыцьця тавараў. Нягледзячы на крэдытную дамову, грошы накіроўваюцца на рахункі фірмаў «Сільвэр-Рынг», «Баярд» (на 60 млн.), «Райт», «Эскар» (на 62,3 млн.), і ўрэшце гэтыя апошнія ўносяць грошы ў статутовыя фонды ўстановаў «Белбізнэсбанку». Лёгка й зграбна.

Гэткім самым чынам 18.12.92 г. і 21.01.93 г. банк пералічвае праз 6 фірмаў 749,3 млн. рублёў фірме «Эндру» нібыта для набыцьця тавараў у Маскве (АТ «Блок»). Замест гэтага «Эндру» 57 млн. пералічвае ў статутовы фонд «Белбізнэсбанку», а 547 млн. пераводзіць на рахункі яшчэ 8 фірмаў нібыта за тавары (міфічныя) ад АТ «Блок». Далей, як можна здагадацца, усе 8 фірмаў пералічваюць грошы ў статутовыя фонды «Белбізнэсбанку».

Цікава таксама, што Нацыянальны банк зарэгістраваў статутовыя фонды ў поўнай суме, хоць у дэклярацыях аб інвэставаньні ў статутовыя капіталы ўстановаў «Белбізнэсбанку» пададзена, што акцыянэры — фірмы «Эндру», «Тангейзэр», «Мідгард», «Райт» і інш. — для набыцьця акцыяў выкарысталі пазыковыя сродкі Нацыянальнага банку. Пытаньне: што гэта за фірмы, хто іхны заснавальнік, для чаго створаныя? Адказ на апошняе пытаньне, верагодна, такі: для «чорных» апэрацыяў. У прыведзеным выпадку парушаны арт. 24 закону «Аб Нацыянальным банку».

Безумоўна, ніхто ў «Белбізнэсбанку» ня крыўдзіў і асабіста сябе. У студзені 1992 і пачатку 1993 гг. кіраўніцтва ўстановаў «Білбізнэсбанку» выдала крэдыты на набыцьцё акцыяў і сваім работнікам, і таямнічым службовым асобам зь іншых арганізацыяў. Крэдыты давалі на 2—4% гадавых (лічы, бясплатна) з налічэньнем дывідэндаў у памеры 50% гадавых. У траўні 1993 г. крэдыт пагасілі з фонду матэрыяльнага заахвочваньня. Акцыі, набытыя фізычнымі асобамі, праіндэксавалі па 100%. За сьціплы тэрмін «свае людзі» сталі ўладальнікамі акцыяў «Білбізнэсбанку» на вельмі прыстойныя сумы. Пры гэтым яны ні рубля ня выдаткавалі. Кіраўніцтва банку, як казаў Шура Балаганаў, «забурэла»: яно нечакана (для каго?) займела мільённыя набыткі ў каштоўных паперах. Я ўжо не кажу пра аклады банкаўскіх службоўцаў ды іхныя штомесячныя прэміі, якія складаюць ад 1 да 3 акладаў (у залежнасьці ад ляяльнасьці й набліжанасьці да таемнай інфармацыі). Нам такія не прысьніць.

Так што заблытанай выглядае крэдытная палітыка «Белбізнэсбанку». Праўда, зь якога боку паглядзець.

Яшчэ ў жніўні 1992 г. банк роўна на год выдаў 500 млн. МП «Ністан» і 510 млн. фірме «Гаравы і К» на набыцьцё 127 тыс. т. нафты ў Расеі. Расейскі контрагент перавёў грошы ТАА «Бібліяполіс» (Санкт-Пецярбург). Грошы «закруціліся», а нафта засталася ў Расеі. Зусім дзіўна тое, што банк сам праявіў ініцыятыву у пагашэньні крэдыту. Ён прадаў 2 млрд. крэдытных рэсурсаў банку «Пошук», які тут жа выдаў крэдыт фірме «Эндру» (зноў яна!) у суме 1010 млн. руб. на закупку тых жа нафтапрадуктаў, але ўжо ў Нью-Ёрку ("Квінта LTD"). Да Нью-Ёрку справа не дайшла, а грошы за 2 дні праз рахункі «Эндру», «1С—15», «Адэла» залічылі на рахункі МП «Ністан» і «Гаравы і К», якія пасьпяхова вярнулі крэдыт «Белбізнэсбанку». Кола, такім чынам, замкнулася. Чым тлумачыцца такая дабрыня? Думаецца, не дабрачыннасьцяй. Ва ўсякім разе, журналістаў не запрашалі асьвятляць падзею.

Яшчэ аб нафце, пра якую так любіць разважаць Вячаслаў Францавіч. Са жніўня 1992 г. па жнівень 1993 г. установы банку выдалі камэрцыйным структурам 5 мільярдаў рублёў крэдытаў для закупкі 350 тыс. т нафтапрадуктаў. На 1 верасьня мінулага году Беларусь атрымала толькі 1125 т. Выпадкова гэта ці не? З аднаго боку, ясна, што крэдыты шматразова «пракруціліся»; зрэшты, з гэтай мэтай яны і браліся. З другога боку, «Белбізнэсбанк» — установа дзяржаўна-камэрцыйная, але дзяржава якраз і глядзела на ўсе парушэньні скрозь пальцы. А вось гэта ўжо невыпадкова. Асабліва зважаючы на той вэрхал, што ўзьнялі нашыя правадыры з прычыны недахопу нафты (чамусьці менавіта расейскай).

А вось і яскравы прыклад на тэму аб незаконных даходах.

Фірме «План» «Белбізнэсбанк» 30.04.93 г. выдае 200 млн. крэдыту пад 80% гадавых нібыта на закупку прадуктаў у замежнай фірмы. Грошы пералічваюцца банку «Паўночны Захад». Нібыта для набыцьця валюты (тут усё — «нібыта»: гэта ж сьвет крывых люстэркаў). Валюту не купілі, але залічылі грошы на рахунак прыватнага бізнэсмэна В.Жукава з умовай невыкарыстаньня іх да 28 жніўня 1993 г. (тэрмін пагашэньня крэдыту, атрыманага фірмай «План»). Жукаву ж банк абавязаўся выплаціць працэнты за выкарыстаньне гэтых грошай у якасьці крэдытных рэсурсаў. У выніку сп.Жукаў «наварыў» 101,7 млн., «План» — 15, гарадзкая дырэкцыя «Белбізнэсбанку» — 53,3 млн. рублёў. Так гэта робіцца ў Беларусі.

Дасьведчаны чалавек (падаткавы інспэктар) упэўнена гаворыць, што ў стварэньні любой больш-менш прыкметнай камэрцыйнай структуры прымалі ўдзел дзяржаўныя ці партыйныя грошы. Ці тыя і другія разам. Размовы пра ўдалых хлопцаў, якія прадалі машыны і стварылі фірмы, а праз месяц зрабілі першы «лімон» — гэта казкі для дзяцей дашкольнага ўзросту.

Банк, канцэрн, фірма ў нашых умовах ня могуць узьнікнуць безь фінансавай падтрымкі дзяржавы (ці дзяржаўных людзей, што больш адпавядае праўдзе). Спачатку дзяржаўныя службоўцы не саромеліся быць у складзе праўленьняў і дырэкцыяў, з выхадам адпаведнай забароны яны сышлі ў цень. Але гэта, вядома, ня значыць, што ніякага ўдзелу ў камэрцыі яны не прымаюць. Верагодна, актывізаваліся яшчэ больш, бо становішча няпэўнае і трэба пасьпець ухапіць свой кавалак.

Дарэчы, пра сытуацыю ў «Белбізнэсбанку», а таксама ў банку «Паўночны Захад» Прэзыдыюм Вярхоўнага Савету быў паінфармаваны яшчэ ў сьнежні 1993 г. Кардынальных зьменаў ці кадравых перастановак не адзначана — хто быў, той і ёсьць.

Рабіце высновы самі, шаноўнае спадарства.

**Сяргей ПАЎЛАЎ**

## Свастыкі ў цэнтры Менска

**У ноч з 4 на 5 траўня невядомыя размалявалі свастыкамі кіёск ТБМ, які стаіць у цэнтры Менска насупраць ГУМа. Адбіткі зробленыя з дапамогаю трафарэтаў.**

Побач знаходзіцца дзяжурнае аддзяленьне Ленінскага РАУС, аднак пра гэты факт там даведаліся толькі ад карэспандэнта СВАБОДЫ.

Папярэдняй ноччу ў шапіку ТБМ былі павыбіваныя шыбы і скрадзеныя некаторыя рэчы. Тут прадаюцца беларускія сувэніры, кнігі і незалежная прэса. Дарэчы, гэта адзінае мейсца, дзе заўсёды ёсьць сьвежы нумар СВАБОДЫ.

**Мікола ГРЫНЯВІЦКІ**






Ф.СП-1

Міністэрства сувязі Беларусі
"Белсаюздрук"

**АБАНЭМЭНТ** на газэту 63887

**СВАБОДА** Колькасьць камплектаў 1

на 1994 год па месяцах:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | XXX | | | | | |

Куды ______ (паштовы індэкс) ______ (адрас)

Каму ______ (прозьвішча, ініцыялы)

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТКА**

ПВ | Месца | літар

на газэту 63887

**СВАБОДА**

Кошт: падпіскі 1500 руб.; пераадрасоўкі ___ руб. Колькасьць камплектаў 1

на 1994 год па месяцах:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | XXX | | | | | |

Куды ______ (паштовы індэкс) ______ (адрас)

Каму ______ (прозьвішча, ініцыялы)

# Слонімскія пустэльнікі

**Гадоў дзесяць таму ў «Комсомольской правде» зьявілася першая публікацыя В.Пяскова пра селішча ў сібірскай тайзе старавераў Лыкавых. Матар'ял стаў сэнсацыяй. І сапраўды, цяжка было ўявіць і зразумець, што такое магчыма: каб жылі людзі, якія ня ведаюць сучаснай цывілізацыі, карыстаючца тым, што дае матухна-прырода.**



*Здымак Мікалая СУПРУНА*

Менавіта з такім пачуцьцём мы ехалі зь лесьнікамі да мейсца, дзе знайшлі сабе прытулак слонімскія «лыкавы» — манах і манашка. Лесьнікі распавядалі, што летась гэтая боская пара пабудавала ў лесе зямлянку, абзавялася сякой-такой гаспадаркай і жыве сабе ціхім, непрыкметным жыцьцём асобна ад людзей.

...Як толькі мы збочылі на стаптаную лясную сьцежку, дзесьці ў гушчары пачуўся сабачы брэх. Мейсца стаянкі пустэльнікаў (невялікая лясная дзялка плошчаю прыкладна 100 кв.м.) абнесена двухмэтроваю плеценаю агароджаю. Гэты кавалачак зямлі дыхаў жыцьцём. Над кустамі курэў дымок, на дроце ветрык гойдаў памытую бялізну.

Першай выбегла жанчына ў мужчынскім адзеньні й прытрымала сабаку. Адказваючы на прывітаньне, нас з асьцярогай разглядваў мужчына, які вонкава нагадваў манаха. Іхная «двухпакаёвая» зямлянка зробленая па ўсіх правілах народнага будаўніцтва. У першым пакойчыку тулілася мураваная печка, другі быў і гасьцёўняй, і спальняй. Цьмяны прамень сьвятла, які ішоў ад акенца, акрэсьліваў тапчан і столік, на якім высьвечваліся нейкі часопіс і шклянка з пучком канваліяў.

Было відаць, што наш візыт парушыў звыклы быт бадзяжнікаў, але, зьмірыўшыся, жанчына кінулася да агмяня, дзе падгараў на патэльні блінец, а гаспадар павёў спо-ведзь.

Віктар Сяргеевіч Рамашкін, а па Богу Вікенці, як і сястра Вера, — у мінулым выхаванцы дзіцячага дома. Ён — былы марак гандлёвага флёту, хадзіў у замежнае плаваньне, меў сям'ю ў Астрахані, трохпакаёвую кватэру. Але аднойчы на танкеры адбылася аварыя, у час якой моцна пакалечыўся. Калі выкараскаўся са шпітальнага ложка, даў зарок рэшту жыцьця прысьвяціць Богу. Працаваў рэстаўратарам, аднаўляў Пакроўскую царкву ў Кіеве. Потым вучыўся ў Загорскай духоўнай акадэміі, але праз чатыры гады пакінуў боскую альма-матэр і пайшоў у манахі. Правёў доўгі час у Пскова-Пячорскім, а затым Жыровіцкім манастырох. Аднак «душа шукала іншага прытулку». Можа яшчэ і ад таго, што адчуваў неразуменьне з боку вышэйшага духавенства, бо ўсё больш схіляўся да стараверства.

Лёс зьвёў яго зь сястрой Верай, інвалідам па зроку зь дзяцінства, якая таксама была пасьвячоная ў манашкі. Зразумеўшы адзін аднаго, яны вырашылі разам адасобіцца ад людзей, на што атрымалі бласлаўленьне айца Антонія з Жыровіцкага манастыра.

«Людзі пытаюцца: што прымусіла нас стаць пустэльнікамі? Адказ просты — чалавечая злосьць і абыякавасьць да бліжняга, пустая мітусьня, якія пануюць сёньня ў сьвеце. Заўважце: Госпад пайшоў у пустэльню, каб прайсьці шляхам чалавека і пасьпытаць ягоныя патрэбы... Глядзеце, як тут прыгожа і хораша! Сам Бог паказаў нам гэтае мейсца», — кажа манах.

Мейсца сапраўды неблагое. Побач цурчыць крынічны ручай. На адваяваных у балота надзелах зеленеюць капуста, цыбуля, да сонца прабіваецца лісьце агуркоў. Навакольныя паляны багатыя ягадамі й грыбамі. Ад ваўкоў і дзікоў ратуе сабака. Трэба сказаць, што гэты рыжы вартавы, у якім нібы бяжыць кроў чырвоных ваўкоў, — улюбёнец манахаў. Усю цеплыню і ўвагу яны аддаюць яму. І ня толькі таму, што ён добры абаронца. Калі ў сястры Веры на твары ўзьнік фурункул, сабака залізаў яго, і скула прапала.

На дымок пустэльнікаў ідзе ня толькі зьвер. Трапляюць сюды і людзі: хто дзеля цікаўнасьці, а хто і з благімі намерамі. Былі неяк лесарубы з надзеяй разжыцца самагонам, завітала летась і дзятва з суседняга летняга лягеру. На развітаньне яны сёе-тое пакінулі. Дзядзькі-лесьнікі — сякеру, дзеці — лялькі й цацкі. Была, вядома, і міліцыя, але, не заўважыўшы нічога крамольнага, пакінула манахаў у спакоі. Праўда, часьцей людзі прыходзяць сюды пагаманіць ці атрымаць прыродныя лекі, рэцэпты ад хваробы. Віктар (менавіта так назваў сябе манах) сур'ёзна займаецца народным лячэньнем. Узімку травамі выхадзіў сястру Веру, якая моцна хварэла.

Узамен людзі пакідаюць манахам цьвікі ды іншыя гаспадарчыя прылады. Да наступнай зімы Віктар пляную рэканструяваць жытло: прыладзіць яшчэ адзін пакойчык, больш трывалым зрабіць дах. Намер у боскай пары — пасяліцца тут надоўга. «Калі мясцовыя ўлады ня будуць супраць», — падкрэсьліў манах. Нават марыць, як бы гэтае ўладаньне прыдбаць ва ўласнасьць на законнай падставе.

У Віктара й сястры Веры ёсьць у Расеі дзеці, якія дасылаюць ім сюды пэнсіі. Бо аднымі дарамі прыроды ўвесь час не пражывеш. Каб заправіць газай лямпу, падмацаваць батарэю да радыё, патрэбны грошы. Дзеці ўпрошваюць вярнуцца дамоў. Слухаючы споведзь гэтых людзей, якія разьмянялі шосты дзясятак, мы таксама маглі іх зразумець. Можна называць іх дзівакамі, а то і яшчэ горш, але ўражвала адно: яны ўпэўненыя — нарэшце знайшлі сэнс свайго жыцьця вось тут, на гэтым кавалачку зямлі, і іншага ім ня трэба.

**Віктар ВАЛАДАШЧУК**



Падпісны індэкс 63887. Нумар падпісаны ў друк 7.06.94. Друкарня "Беларускі Дом Друку" (Менск, пр. Ф.Скарыны, 79). Замова 807 Наклад 30 000.
(Друкарскія пласціны газэты СВАБОДА)
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12 М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12